# Уільям ФОЛКНЕР

## ПАХ ВЕРБЕНЫ

### I

Гэта здарылася адразу пасля вячэры. Не паспеў я разгарнуць кнігу Коўка [1], уладкаваўшыся за сталом пад лямпаю, як на калідоры пачуліся крокі прафесара Уілкінса, а потым павісла кароткая паўза,— калі ён дакрануўся да клямкі дзвярэй,— і ў гэтае імгненне нязвыклай цішыні я павінен быў здагадацца, што гэта нездарма. Шмат гавораць пра благія прадчуванні, але тады ў мяне не ўзнікла ніякіх прадчуванняў. Я пачуў яго крокі на прыступках сходаў, потым на калідоры; нічога незвычайнага ў гэтых кроках я не заўважыў, бо, хоць я пражыў у прафесарскім доме тры гады вучобы ў каледжы і хоць ён і місіс Уілкінс звярталіся да мяне па-свойску «Баярд», ён ніколі не дазволіў бы сабе зайсці ў мой пакой без папярэдняга стуку,— як і я заўсёды рабіў тое самае, калі заходзіў да яго ці да яе. Але на гэты раз ён з грукатам расчыніў насцеж дзверы адным з тых жэстаў, якія амаль з фізічным болем успрымаюцца юнаком, бо той ніколі не мог сабе нават уявіць такіх бесцырымонных паводзін ад свайго паважанага і заўсёды карэктнага настаўніка, які ўварваўся ў пакой, спыніўся на парозе і сказаў:

— Баярд. Баярд, сын мой, мой дарагі сынок.

Я павінен быў здагадацца, павінен быў падрыхтавацца да благой весткі. Магчыма, я ўсё-такі падрыхтаваўся, таму што памятаю, як акуратна загарнуў кнігу, нават адзначыўшы месца, дзе спыніўся, і толькі пасля гэтага падняўся

[1] Коўк Эдвард (1552—1634) — вядомы англійскі юрыст.

з крэсла. Ён (прафесар Уілкінс) нешта там корпаўся, а потым даў мне капялюш і плашч, якія я ўзяў, хоць мне зусім не патрэбны тады быў плашч (быў кастрычнік, але надвор'е трымалася не па-асенняму цёплае), аднак, падумаў я, неўзабаве чакаюцца халады і дажджы і мне яшчэ спатрэбіцца плашч, каб вярнуцца сюды, калі наогул збіраюся прыехаць сюды зноў, а ў галаве білася адна і тая ж думка: «Божухна, чаму ён не ўварваўся да мяне ў пакой учора ўвечары, не расчыніў з грукатам насцеж дзверы без папярэдняга стуку, я паспеў бы апынуцца на тым месцы, дзе ўсё гэта здарылася, быць побач з ім там, дзе яму было наканавана ўпасці і застацца ляжаць у пыле і брудзе».

— Ваш хлапец чакае ўнізе, на кухні,— сказаў прафесар. Толькі пазней, калі прайшло шмат гадоў, нехта (хутчэй за ўсё, ён сам, суддзя Уілкінс) расказаў мне, як Рынга[1], нахабна адштурхнуўшы кухара, імкліва прайшоў у дом, а потым у бібліятэку, дзе сядзелі містэр і місіс Уілкінс, і, нават не павітаўшыся, абвясціў: «Сёння раніцай забілі палкоўніка Сарторыса[2], перадайце Баярду, што я чакаю яго на кухні»,— і адразу выйшаў; яны не паспелі нават і паварушыцца.

— Ён праехаў сорак міль, але рашуча адмовіўся падсілкавацца хоць чым-небудзь.

---

[1] Рынга — негр, малочны брат Баярда.

[2] Сарторыс — палкоўнік Джон Сарторыс нарадзіўся ў Караліне ў 1823 г. і прыехаў у Джэферсан (акруга Йокнапатафа — выдуманая У. Фолкнерам акруга, у якой адбываецца дзеянне большасці яго твораў) у 1837 г., дзе пабудаваў вялікі загарадны дом. Падчас Грамадзянскай вайны арганізаваў полк у Йокнапатафе і сам узначаліў яго, стаўшы палкоўнікам. Праз год быў вызвалены ад абавязкаў камандзіра палка, а на яго месца прызначаны Томас Сатпэн. Баярд — сын Сарторыса ад першага шлюбу з місіс Мілард. У 1865 г. палкоўнік Сарторыс ажаніўся з Друзілай Хок. У 1872 г. ён забіў двух белых, г. зв. саквояжнікаў, якія прывялі неграў галасаваць. 4 верасня 1876 г. быў забіты сваім партнёрам па будаўніцтву чыгункі Рэдмандам (у рамане «Сарторыс» забойцу палкоўніка клічуць Рэдла). Прататып Сарторыса — прадзед пісьменніка, поўны яго цёзка, палкоўнік Уільям Фолкнер, у якога шмат агульнага з літаратурным персанажам: ён таксама камандаваў палком, пабудаваў першую ў штаце чыгунку і загінуў на дуэлі.

Потым мы рушылі да дзвярэй, за якімі я пражыў тры гады ў падсвядомым прадчуванні таго, што здарылася сёння; і, тым не менш, я нічога не адчуў у тых кроках, якія крыху раней гучалі каля сценаў пакоя.

— Я магу хоць што-небудзь зрабіць для вас?

— Так, сэр,— сказаў я.— Дайце хлопцу свежага каня. Ён, відаць, захоча паехаць са мной.

— Пра што гаворка, бярыце майго каня ці кабылу місіс Уілкінс,— выгукнуў прафесар усё тым жа заклапочаным тонам, і мы абодва адначасова зразумелі ўвесь камізм ягонай прапановы: караткаsuccногая, з запалым пузам, кабылка, якую звычайна місіс Уілкінс запрагала ў плецены фаэтончык, выглядала, нібы пераспелая дзеўка-векавуха, настаўніца музыкі. Мяне быццам сцюдзёнай вадой аблілі, і гэта пайшло мне на карысць.

— Я вельмі ўдзячны вам, сэр,— сказаў я.— Як-небудзь абыдземся. Я найму свежага каня для Рынга на платнай стайні, дзе я трымаю сваю кабылку.

І сапраўды, я крыху ачуняў, бо не паспеў нават закончыць фразу, як зразумеў, што нічога гэтага мне рабіць не давядзецца, таму што Рынга ўжо пабываў на той платнай стайні перад тым, як прыйсці сюды, у каледж, і пра ўсё паклапаціўся: коні ўжо асядланыя і чакаюць нас каля агароджы дома, і нам не спатрэбіцца наогул ехаць праз увесь Оксфард[1]. Луш, вядома, не зрабіў бы нічога, калі б яму давялося паехаць па мяне, ён адразу ж завітаў бы ў каледж, да прафесара Уілкінса, расказаў бы навіну, а потым спакойна сеў бы і ўсе клопаты ўзваліў бы на мае плечы. Але Рынга зусім не такі.

Прафесар выйшаў з пакоя ўслед за мной, і пакуль мы з Рынгам не выехалі ў задушную, густую, пыльную цемру, хваравіта цяжарную, нібы пакутніца-парадзіха, запозненым асеннім раўнадзенствам, ён увесь час круціўся недзе вакол мяне — ці то поруч, ці то ззаду, але мне было не да

[1] Оксфард — універсітэцкі горад у штаце Місісіпі, дзе вучыцца на юрыста Баярд. У гэтым горадзе навучаўся і сам У. Фолкнер у 1919—1920 гг.

яго. Ён стараўся адшукаць прыдатныя словы, каб прапанаваць мне свой пісталет. Да сённяшняга дня я нібыта чую, як ён тады казаў мне: «Ах, няшчасны наш, забыты Богам, край: не прайшло яшчэ і дзесяці гадоў, як мы перанеслі цяжкую ліхаманку, і пасля гэткай напасці зноў павінны аплачваць Каінаў грэх той жа самай манетай». Аднак ён не сказаў гэтых слоў уголас. Ён увесь час хадзіў за мною, недзе поруч, ці ззаду мяне, пакуль мы спускаліся па прыступках сходаў туды, дзе місіс Уілкінс чакала ў зале пад святлом кандэлябра — хударлявая сівенькая жанчына, якая нагадвала мне маю бабулю — не таму, што яна была падобная да бабулі, а, мабыць, таму, што добра яе ведала. Я выразна бачу перад сабой да гэтага часу яе ўзнёслы, спагадлівы, спакойны твар, на якім чыталася: *«Хто ўзяў у рукі меч, ад мяча і загіне»*,— якраз гэтаксама магла падумаць і мая бабуля ў такі трагічны, адказны момант выпрабаванняў, якія выпалі на маю долю. Я мусіў прыйсці да місіс Уілкінс не таму, што быў унукам сваёй бабулі, і не таму, што пражыў у доме Уілкінсаў вось ужо тры гады, пакуль вучыўся ў каледжы, і быў амаль такога самага веку, як сын місіс Уілкінс, калі яго забілі ў апошняй бойцы мінулай вайны дзевяць гадоў назад, а таму, што цяпер я зрабіўся сапраўдным Сарторысам (менавіта гэтая акалічнасць, разам з усведамленнем таго, што *нарэшце гэтае здарылася*,— такія думкі ўспыхнулі ў маёй галаве, калі прафесар Уілкінс адчыніў дзверы ў мой пакой). Яна не прапанавала мне ні каня, ні пісталета — і не таму, што любіла мяне меней за прафесара Уілкінса, але таму што яна была жанчынай і тым самым больш мудрай, чым любы, самы разумны мужчына; іначай мужчыны не працягвалі б весці тую бязглуздую вайну яшчэ два гады, калі ўжо дакладна ведалі, што перамогі не будзе. Яна толькі ўсклала рукі (невялічкая жанчына, не вышэйшая за бабулю) на мае плечы і сказала:

— Перадай мае прывітанні Друзіле і цётцы Джэнні [1]. І як мага хутчэй вяртайся назад.

---

[1] Цётка Джэнні — сястра палкоўніка Сарторыса — Вірджынія Дзю Прэ (1839—1930). Прыехала да яго ў Джэферсан у 1869 г. пасля смерці мужа.

— Толькі я дакладна не ведаю, калі гэта здарыцца,— адказаў я.— Я не ведаю, якія неадкладныя справы мяне там чакаюць.

Так, я хлусіў нават ёй; не прайшло яшчэ і хвіліны з таго моманту, калі ён уварваўся ў мой пакой, бразнуўшы дзвярыма, як я пачаў усведамляць у сабе тое, што нарадзжалася і мацнела ў маёй душы насуперак мне самому, насуперак майму паходжанню і выхаванню (а магчыма, і дзякуючы ім), у чым я яшчэ не быў да канца пераканаsuccessfully і баяўся выпрабавання, якое чакала мяне наперадзе. Я памятаю: яе рукі ўсё яшчэ на маіх плячах, а я думаю: *«Ва ўсякім выпадку, змагу высветліць, чаго сапраўды я варты, ці такі я ў сапраўднасці, якім я сам сабе здаюся, ці спраўджу тое, што сам лічу справядлівым, ці мяне хопіць толькі на добрыя намеры і пажаданні»*.

Мы перайшлі на кухню, прафесар Уілкінс круціўся вакол мяне, недзе побач ці ззаду, і ўсё прапаноўваў мне пісталет і каня на самыя розныя лады. Рынга цярпліва чакаў мяне. Памятаю, я тады падумаў: што б ні адбылося далей з намі, я ніколі не зраблюся Сарторысам у адносінах да яго. Яму гэтаксама было дваццаць чатыры гады, але ён змяніўся меней за мяне з таго самага дня, калі мы з ім прыбілі цвікамі цела Грамбі[1] да дзвярэй старой адрыны з бавоўнай. Магчыма, таму, што ён пасталеў раней за мяне: яшчэ ў тое лета, калі яны з бабуляй прадавалі янкі мулаў, а потым змяняцца давялося мне, каб хоць бы неяк зраўняцца з ім у развіцці. Ён спакойна і ціха сядзеў каля астылай пліты, з вельмі стомленым выглядам: дзіва што — сорак міляў за спінаю (аднойчы, ці ў Джэферсане, ці калі яму давялося нарэшце застацца самотным дзе-небудзь па дарозе сюды, ён плакаў, бо на яго змарнелым твары былі відаць сляды слёз), і наперадзе яго яшчэ чакаюць сорак міль, да таго ж, зусім без ежы. Потым ён моўчкі падняўся, не вымавіўшы ні слова, і накіраваўся да дзвярэй, і я пайшоў за ім, а следам за мной і прафесар Уілкінс, усё

[1] Грамбі — Баярд і Рынга забілі негра Грамбі, гісторыя гэтага забойства апісана ў апавяданні «Вандэя» з цыкла «Няскораныя».

яшчэ прапаноўваючы мне каня і пісталет, нічога не кажучы; але я адчуваў ягоныя думкі: *«Ад мяча і загіне. Ад мяча і загіне...»*

Як я і меркаваў, каля агароджы стаялі асядланыя коні, падрыхтаваныя загадзя Рынгам,— адзін свежы конь для яго ды мая кабылка, падараваная мне бацькам тры гады таму і здольная праскакаць мілю менш як за дзве хвіліны і цэлы дзень прайсці з хуткасцю восем хвілін міля. Ён ужо сядзеў у сядле, калі я нарэшце зразумеў, што мне трэба развітацца з прафесарам Уілкінсам. Мы пацiснулі адзін аднаму рукі. Я адчуваў: ён лічыць, што паціскае руку, якая заўтра ўвечары, магчыма, будзе мёртвай, і на імгненне я падумаў, а што здарылася б, каб я адкрыў яму свае сапраўдныя намеры — мы ж з ім шмат гаварылі, што няма вышэй запавету, як *«Не забі»*, што толькі ў ім адзіная надзея, у ім мір для Ягонага сляпога і аблуднага племені, якому Ён даравaў бессмяротнасць. Магчыма, яму здавалася, што ён сам навучыў мяне гэтаму боскаму запавету *«Не забі»*, але ж у сапраўднасці ўсё зусім не так, бо гэтаму навучыць нельга: боскія запаветы маюць больш глыбокія карані, іх нельга вывучыць самастойна ці спасцігнуць іх глыбіню. Аднак я нічога яму не сказаў. Ён занадта стары, і нельга прымушаць яго нават тэарэтычна пагадзіцца з маім рашэннем, ён занадта стары, каб адстойваць прынцып насуперак ягонаму выхаванню, традыцыям і пад пагрозай крыві; нельга заспяваць яго знянацку, прыставаць з нажом да горла. Толькі юнаку такое пад сілу, чый узрост яшчэ можа паслужыць хаця б прычынай (але не апраўданнем) ягонай баязлівасці.

Таму я нічога яму не сказаў. Я толькі пацiснуў яму руку і гэтаксама сеў у сядло. Рынга і я рушылі ў дарогу. Нам не трэба было цяпер ужо ехаць праз Оксфард, таму неўзабаве дарога на Джэферсан лягла перад намі (а вузкі серп месяца быў нібыта след чалавечай пяткі на мокрым пяску), дарога, па якой я ўпершыню праехаў тры гады таму разам з бацькам, а на Каляды ехаў ужо самотны туды і назад; потым у чэрвені і кастрычніку; і так кожны

год — на Каляды, у чэрвені і кастрычніку — ездзіў самотны па гэтай дарозе, нават не падазраваючы, што вось гэта і ёсць мір і спакой, і зараз зноў еду па ёй, і хоць застануся жыць (гэта я ведаў), але апошні раз еду з высока ўзнятай галавой. Коні перайшлі на мерную рысь і будуць трымаць гэты тэмп да самага канца. Мая кабылка добра ўжо ведала гэтую дарогу, у Рынга таксама быў неблагі конь, якога ён здолеў-такі выпрасіць на стайні ў Хільярда. Магчыма, падзейнічалі сляды слёз на запалых шчоках — палосы засохлай гразі пад чырвонымі стомленымі вачамі; але хутчэй за ўсё зноў выявілася ягоная здольнасць, якая дазваляла яму падчас вайны фабрыкаваць фальшывыя дакументы, па якіх ён і бабуля атрымоўвалі мулаў і перапрадавалі іх арміі Злучаных Штатаў Амерыкі,— нейкая дзёрзкая ўпэўненасць у сабе, у сваіх сілах і здольнасцях, якую ён набыў надта доўгімі і цеснымі сувязямі з белымі — з той, каго ён называў бабуляй, і з сваім аднагодкам, з якім разам спаў з самага нараджэння і ажно да таго часу, як бацька адбудаваў новы дом на месцы спаленага. Увесь шлях дадому мы прарабілі моўчкі, і толькі аднойчы перакінуліся словамі.

— Мы маглі б застрэліць яго, як калісьці Грамбі, памятаеш? — прапанаваў ён.— Ці, можа, гэта не прыдатна для вашай далікатнай белай скуры?

— Не,— адказаў я.

Да самага дому больш мы з ім ні пра што не гаварылі. Быў кастрычнік, і яшчэ доўга будзе квітнець вербена, хоць, толькі прыехаўшы дадому, я зразумеў, якая мне ад яе карысць,— вербена ўсё яшчэ квітнела ў нашым садзе, дзе цётка Джэнні ў старых бацькавых кавалерыйскіх рукавіцах капалася разам са старым Джобі на клапатліва апрацаваных клумбах сярод кветак з мудрагелістымі старасвецкімі назвамі; і хоць ужо наступіў кастрычнік, але яшчэ не пайшлі дажджы, і не было яшчэ замаразкаў, якія пакідалі пасля сябе паўцёплыя, паўхалодныя ночы бабінага лета; у дрымотным паветры прахалода і чаканне чародаў гусей, але яшчэ трымаецца летні гарачы пыльны пах

вінаграду і лаўру — вось у такія ночы мы з Рынгам калісьці, пакуль я не паехаў у каледж вывучаць права, палявалі на апосумаў з ліхтаром, сякерай, мехам і шасцю сабакамі (адзін дзеля справы, а іншыя для брэху) на выгане, дзе аднойчы мы з сваёй засады ўбачылі афіцэра-янкі на буланым кані і дзе вось ужо год як чуліся свісткі паравозаў, якія даўно ўжо не належаць містэру Рэдманду; а сёння зранку і бацька кінуў іх з рук, нібыта запаленую люльку, якая, па словах Рынга, выстрымнулася з бацькавай далоні, калі той падаў на зямлю. Мы набліжаліся да дому, дзе ён ляжыць у зале ва ўрачыстым ззянні люстраў і кандэлябраў, апрануты ў палкоўнічую форму (пры шаблі таксама) і дзе мяне чакала Друзіла ў жоўтай бальнай сукні з галінкаю вербены ў валасах, трымаючы ў абедзвюх руках па пісталету (я бачыў усё гэта нібыта наяве, хоць я не веру ні ў якія прадчуванні, я здольны быў уявіць сабе яе, ва ўрачыстай зале, прыбранай для пахавання, не высокую, не зграбную, як звычайна выглядаюць прыгожыя жанчыны, а яна ўяўлялася мне як юнак, хлапчук, нерухомая, у жоўтым адзенні, са спакойным тварам, крыху збянтэжаная, з строгай і простай прычоскаю, у валасах трымцяць па галінцы вербены над кожным вухам, рукі сагнутыя ў локцях, на ўзнятых на вышыні плячэй руках па аднолькавым дуэльным пісталеце — строгая жрыца рытуальнай помсты з грэчаскай амфары).

## II

Друзіла сказала, што ў яго свая мара. Тады мне было дваццаць гадоў. Мы з ёй часта гулялі па садзе летнімі прыцемкамі, чакаючы, пакуль бацька не вернецца з чыгункі. Мне было ўсяго толькі дваццаць гадоў тады; у тое лета, перад тым, як я паступіў вучыцца ва універсітэт на юрыста, як пажадаў бацька, і мінула ўжо чатыры гады з таго лета, дня, вечара, калі бацька з Друзілай не дазволілі старому Кэшу Бенбаў быць абраным на пасаду федэральнага судовага выканаўцы, а самі вярнуліся дадому,

так і не павянчаўшыся, і місіс Хэбершам адразу ж пасадзіла іх у свой экіпаж, зноў адвезла ў горад, выцягнула мужа з яго цёмнага катуха ў нядаўна збудаваным банку, прымусіла падпісаць паручыцельства, якое вызваляла бацьку ад арышту за забойства двух «сакваяжнікаў» [1], потым павяла бацьку з Друзілай да святара і ўсё-такі іх павянчала. За гэтыя гады бацька адбудаваў дом на месцы, дзе стаяў будынак, які згарэў, на месцы, дзе было чорнае пажарышча, толькі ранейшы будынак быў значна меншы за новы, заўсёды непарыўна звязаны, паводле слоў Друзілы, з бацькавай марай, як пасаг і вэлюм — з марай нявесты. А калі прыехала цётка Джэнні, адрадзіўся і наш сад (вядома, Друзіла не стала б корпацца з кветкамі, гэтаксама як і бацька; у апошні год вайны яна, у салдацкай вопратцы, кароткавалосая, простым байцом праехала Джорджыю і абедзве Караліны з эскадронам бацькі, які стрымліваў націск арміі Шэрмана [2] — і нават чатыры гады пасля гэтага яна ўсё яшчэ жыла ў атмасферы тых часоў Грамадзянскай вайны), і цяпер Друзіла магла рваць і ўтыкаць у валасы галінкі вербены, пах якой — казала яна — лепшы за любыя духі, бо толькі ён здольны заглушыць пах коней і пах мужнасці. Нядаўна пачалася будоўля чыгункі, і бацька з Рэдмандам былі не толькі кампаньёнамі, але і сябрамі; а гэта, паводле слоў Джорджа Уайэта, для бацькі было своеасаблівым рэкордам — ён ніколі ў жыцці ні з кім так доўга не сябраваў. Па суботах бацька, звычайна на самым світанку, сядлаў Юпітэра і адпраўляўся на чыгунку з дзвюма кайстрамі, напоўненымі залатымі манетамі, якія ўхітрыўся пазычыць папярэдне, каб расплаціцца з рабочымі («Глядзі, каб не апісалі ўсю маёмасць»,—

---

[1] «Сакваяжнікі» — жыхары Поўначы, якія прыехалі на амерыканскі Поўдзень пасля прыняцця ў 1867 г. закона пра Рэканструкцыю Поўдня ў палітычных і эканамічных мэтах, што выклікала варожае стаўленне белых жыхароў да «сакваяжнікаў».

[2] Шэрман Уільям Тэкумсе (1820—1891) — амерыканскі генерал, удзельнік многіх бітваў Грамадзянскай вайны ў арміі Поўначы. З сакавіка 1864 г. камандаваў арміяй, якая здзейсніла «марш да мора» праз штат Джорджыя і нанесла паражэнне войскам Поўдня.

трэсла галавой цётка Джэнні). Мы павольна прагульваліся паміж кветнікаў, якія так клапатліва даглядала цётка Джэнні, і Друзіла — калі б бацька ёй дазволіў, дык і цяпер яна б гуляла ў тых салдацкіх штанах — лёгка абапіралася на маю руку, і валасы яе прыемна пахлі ў прыцемках вербенай, як пахлі дажджом у тую ноч чатыры гады таму, калі яны з бацькам (барада ягоная гэтаксама пахла дажджом) і дзядзька Бак Маккаслін, знайшоўшы труп Грамбі, вярнуліся дадому і ўбачылі, што мы з Рынгам не тое, каб спалі, а патанулі, знайшлі збавенне ў выратавальным забыцці, дараваным нам прыродаю ці Богам, ці ўжо не ведаю кім,— нам, каму давялося здзейсніць тое, чаго нельга патрабаваць ад дзяцей: павінна ж існаваць нейкая ўзроставая мяжа, каб хоць бы дзецям не дазвалялася забіваць. У мінулую суботу, прачышчаючы і перазараджаючы пісталет, бацька сказаў нам, што забіў чалавека: гэта быў наш сусед па ферме, былы радавы пяхотнага палка бацькі, які прагаласаваў разам з іншымі за зняцце бацькі з пасады камандзіра; ці збіраўся ён сапраўды абрабаваць бацьку, так і не ўдалося дакладна высветліць, бо бацька паспяшаўся яго застрэліць. У забітага фермера былі жонка і дзеці, якія жылі ў халупе з зямляной падлогай; назаўтра бацька паслаў асірацелай сям'і грошы, а яшчэ праз дзень прыйшла ўдава (калі мы ўсе разам абедалі) і кінула тыя грошы бацьку ў твар.

— Найвышэйшая мара была ў палкоўніка Сатпэна,— азваўся я. Сатпэн быў намеснікам бацькі ў першым пяхотным палку; яго абралі палкоўнікам, калі полк зняў бацьку з пасады камандзіра, і гэтай абразы бацька ніколі не дараваў Сатпэну, які быў грубым, жорсткім і бессардэчным чалавекам і прыехаў да нас у акругу гадоў за трыццаць да вайны, і ніхто не ведаў — адкуль ён родам. Баіцца прызнацца, растлумачыў бацька, па выгляду можна бачыць, што гэта за бандзюга. Невядома таксама, як ён набыў сабе зямлю, хоць грошы ў яго вадзіліся, адкуль ён іх браў — таксама невядома: бацька казаў, што той здабываў іх махлярствам, гуляючы ў карты на параходах, ці

проста займаўся разбоем. Сатпэн пабудаваў вялікі дом, ажаніўся і зажыў джэнтльменам. Потым, як і ўсе іншыя, ён усё страціў падчас вайны, у тым ліку і адзінага сына (той знік, застрэліўшы жаніха сваёй сястры напярэдадні вяселля[1]), аднак Сатпэн вярнууўся на сваю сядзібу і адзін пачаў аднаўляць разбуранае. Сяброў у яго не было, і пазычыць грошы ні ў кога ён не мог, спадкаемца, каму пакінуць зямлю, у яго таксама не было, Сатпэну ішоў ужо сёмы дзесятак, і ўсё-такі ён узяўся за адраджэнне плантацыі. Казалі, нібыта ён ні пра што больш не думаў і не ўлазіў у палітыку, і калі бацька з іншымі пачаў ствараць тайныя групы для барацьбы з «саквояжнікамі», якія падбухторвалі неграў бунтаваць, ён адмовіўся ўдзельнічаць у гэтай справе. Нягледзячы на іх варожыя адносіны, бацька сам паехаў да яго, але Сатпэн сустрэў яго на парозе з лямпай у руках і нават не запрасіў у дом і адмовіўся весці перамовы. На пытанне бацькі: «З намі вы ці супраць нас?» ён адказаў: «Я за сваю зямлю. Калі б кожны з вас заняўся сваёй зямлёй, краіна ад гэтага толькі б выйграла». Тады бацька прапанаваў яму сысці з ганка і паставіць лямпу на пень, каб ім абодвум было відаць, куды страляць, але Сатпэн адмовіўся.

— Ніхто не мае вышэйшай мары за палкоўніка Сатпэна.

— Ты маеш рацыю, але ж ён заклапочаны толькі сабой. Не тое што Джон, які марыць усю нашу краіну зрабіць квітнеючай і шчаслівай: каб не толькі яго сваякі ці аднапалчане, а ўсе людзі — белыя і чорныя, жанчыны і дзеці ў горных хацінах, у каго нават няма чаго надзець на ногі... Разумееш?

— Аднак жа якая карысць ад усіх яго задум тым, хто... Ён жа...

---

[1] Тут гаворка ідзе пра адзінага сына Сатпэна — Генры Сатпэна (1839—1909), які забіў свайго зводнага брата Чарлза Бона (1829—1865), у жылах якога цякла негрыцянская кроў і які хацеў ажаніцца з сястрой Генры Сатпэна. Уся гэтая гісторыя апісана ў рамане У. Фолкнера «Авесалом! Авесалом!».

— Забіў некалькі з іх? Ты, відаць, маеш на ўвазе і двух «саквояжнікаў», якіх ён забіў падчас першых выбараў?

— Яны былі людзі. Жывыя людзі. Чалавечыя істоты.

— Яны былі з Поўначы, чужынцы, якім тут не месца. Яны былі рабаўнікамі.

Мы прагульваліся, яна амаль няўлоўна абапіралася на маю руку, яе галава ледзьве даходзіла мне да пляча. Я заўсёды быў вышэйшы за яе, нават у тую ноч у Хоксерсце, калі мы слухалі, як негры ідуць па дарозе, а з таго часу яна амаль не змянілася — тое самае тугое і зграбнае цела (не па-жаночаму, а па-хлапечаму), і галава гэтаксама коратка абстрыжаная, гэтаксама рашуча і ўпарта ўзнятая ўгору, як тады, сярод звар'яцелага натоўпу неграў, у якім наша павозка спускалася да ракі.

— Мара — рэч небяспечная, Баярд, і ў мяне некалі была свая мара. Яна — як зараджаны рэвальвер на баявым узводзе: рана ці позна абавязкова выстраліць і ў каго-небудзь патрапіць. Але сапраўдная мара вартая такой рызыкі. У свеце мала сапраўдных мараў, а народу зашмат. Адным тузінам меней...

— Якая розніца?

— Так, якая розніца? Чуеш? Гэта Юпітэр. Ну, хто хутчэй дабяжыць!

Яна пабегла — спадніцы, якіх яна так не любіла надзяваць, падняліся амаль да каленяў,— шпарка перабіраючы нагамі, нібы хлапчук; дый у сядло яна садзілася гэтаксама па-мужчынску.

У той час мне было дваццаць. А гэтым летам мне ўжо дваццаць чатыры: тры гады правучыўся ў каледжы, праз два тыдні зноў паеду ў Оксфард, і пачнецца мой апошні вучэбны год. Толькі што закончыліся выбары ў заканадаўчы сход штата, на якіх бацька перамог Рэдманда. Чыгунка пабудавана, большасць людзей забыла б, што бацька з Рэдмандам былі некалі партнёрамі ў будаўніцтве чыгункі, калі б не працягвалася паміж імі гэтая варожасць. Быў яшчэ адзін, трэці, партнёр, якога цяпер забылі ўжо

і які быў знішчаны полымем сваркі, што ўспыхнула паміж бацькам і Рэдмандам, калі толькі пачалася ўкладка рэек. Рэдманд не быў баязліўцам (інакш, паводле слоў Уайэта, бацька ніколі б не меў справы з Рэдмандам, калі задумаў пабудаваць чыгунку), ён упарта выносіў дыктатарскія замашкі і нястрыманасць бацькі — цярпеў, цярпеў, пакуль нешта (не воля, не мужнасць) у ім не зламалася. У вайну Рэдманд не быў на фронце, ён закупляў для ўрада бавоўну і мог бы нажыцца, але не запэцкаў рук; гэта ведалі ўсе, і бацька ведаў, і, тым не менш, дазваляў сабе ўпікаць Рэдманда тым, што той, маўляў, пораху не нюхаў. Што так рабіць нельга, бацька зразумеў, калі ўжо было позна,— вось як п'яніца дойдзе да кропкі, дзе яму ўжо немагчыма спыніцца, хай сабе нават зарок дасць кінуць,— але ўжо занадта позна. Нарэшце, бацька ўсвядоміў, што адзін з іх павінен пайсці. Яны сустрэліся і з дапамогай суддзі Бенбаў (яны паміж сабой ужо не размаўлялі) прыйшлі да згоды наконт грошай, якія атрымае той, хто выйдзе з кампаніі. Сума была да смешнага малая, у параўнанні з тымі грашамі, што яны ўжо выдаткавалі на рабочых, на рэйкі (абодва залажылі ўсё, што маглі, і па вушы пазалазілі ў даўгі, ліхаманкава шукаючы сродкі на пабудову чыгункі). Але кожны з партнёраў лічыў, што другому і гэтага не сабраць; зрэшты, бацька сцвярджаў, што Рэдманд рабіў на гэта стаўку, калі даваў згоду. А бацька сабраў неабходную суму, з чаго ўсё ліха і ўзялося. Праўда, як казаў дзядзька Бак Маккаслін, калі [redacted] у бацькі была не тое што чыгунка, а парася, якім бы ён валодаў разам з іншым,— усё роўна яны не паладзяць і пасварацца абавязкова і разыдуцца заклятымі ворагамі. Такім чынам, бацька закончыў будаўніцтва чыгункі ўжо без Рэдманда. Янкі з Поўначы прадалі яму ў крэдыт паравоз, калі пераканаліся, што чыгунка будзе пабудавана; бацька назваў гэты паравоз у гонар цёткі Джэнні і загадаў выгравіраваць яе імя на сярэбранай маслёнцы, якая захоўвалася на паравозе. Мінулым летам у Джэферсан прыбыў першы цягнік: паравоз быў аздоблены кветкамі, бацька стаяў побач

з машыністам і, калі яны праязджалі паўз дом Рэдманда, даваў свісток за свістком; на станцыі гаварылі шмат прамоў, былі кветкі, дзяўчаты ў белых сукенках з чырвонымі паясамі, грымеў аркестр, лунаў флаг Канфедэрацыі, а бацька з паравоза сказаў прамову, у якой, зусім не да месца, у празрыстым намёку ўпікнуў Рэдманда. У гэтым уся бяда, што ён не хацеў пакінуць Рэдманда ў спакоі. Адразу ж пасля гэтага да мяне завітаў Джордж Уайэт.

— Усе нашы хлопцы трымаюць бок Джона, мае ён рацыю ці не,— сказаў ён.— Дый наогул, уся акруга за яго. Але хай сабе Рэдманд і зрабіў памылку, нельга ж яго ўсё жыццё папікаць гэтым і абражаць. Уся бяда ў тым, што палкоўнік забіў надта многа людзей, а гэта псуе характар чалавека. Мы ведаем, што ён смелы, як леў, але і Рэдманд не баязлівец. Джон павінен пакінуць Рэдманда ў спакоі. Ты б пагаварыў з бацькам.

— Паспрабую,— адказаў я.— Але не ведаю, якія будуць вынікі маёй размовы.

Але нічога з гэтага не атрымалася. Вядома, я мог бы пагаварыць з ім, і ён бы мяне выслухаў, але не пачуў бы мяне, бо адразу з паравоза ён кінуўся з галавой у перадвыбарчую кампанію ў заканадаўчы орган штата. Відаць, ён разумеў, што Рэдманду дзеля выратавання сваёй рэпутацыі давядзецца выставіць сваю кандыдатуру супраць яго, нават усведамляючы, што пасля таго трыумфальнага ўезду ў Джэферсан перамога будзе за бацькам; а магчыма, Рэдманд першым вылучыў сваю кандыдатуру, і гэта прымусіла бацьку ўключыцца ў выбарчую кампанію — я ўжо дакладна не памятаю. Так ці інакш, яны ўступілі ў бязлітаснае змаганне, і бацька паліваў Рэдманда брудам, хоць асаблівай неабходнасці ў гэтым не было, бо абодва ведалі, што бацька лёгка пераможа на гэтых выбарах. І сапраўды, бацька выйграў, і цяпер яму можна было б супакоіцца, так спадзяваліся, прынамсі, усе мы. Магчыма, бацька і сам так лічыў, як думае п'яніца, што не дакранецца да чаркі. У той дзень, калі яго выбралі ў заканадаўчы сход штата, мы з Друзілай гулялі прыцемкам у садзе, і я нагадаў

выпадкова пра тое, пра што прасіў мяне Джордж Уайэт. Яна выпусціла маю руку, павярнула мяне тварам да сябе і сказала:

— І гэта ты гаворыш? Ты? Няўжо ты забыўся на Грамбі?

— Не,— адказаў я.— Я яго ніколі не забуду.

— Не забудзеш. Я не дазволю табе забыць. Баярд, існуюць на свеце рэчы горшыя за забойства. Ці за смерць ад кулі ворага. Я часам думаю: няма лепшай долі для мужчын, як захапіцца чым-небудзь або кім-небудзь; лепш за ўсё пакахаць жанчыну, моцна і самааддана, і памерці маладым, ахвяраваць жыццё за тое, у што верыш, у што не мог не верыць, бо такі ўжо ты ёсць, а іншым быць не мог і не жадаў.— Яна ўтаропілася ў мяне нейкім незвычайным поглядам. Я тады не зразумеў гэтага погляду, не разумеў да сённяшняга дня, бо ў той час ні я, ні яна не ведалі, што праз месяцы два бацьку заб'юць. Я толькі адчуў тады, што ніколі раней яна на мяне так не глядзела і што пах вербены ад яе валасоў нібыта ўзмацніўся ў сто разоў, запоўніў гэтыя прыцемкі, дзе зараз адбудзецца нешта такое, што мне нават ніколі і не снілася.

— Пацалуй мяне, Баярд,— сказала яна.

— Не. Ты бацькава жонка.

— І на восем гадоў старэйшая за цябе. І твая стрыечная цётка. І брунетка. Пацалуй мяне, Баярд.

— Не.

— Пацалуй, Баярд.

І я схіліўся да яе твару. Але, злёгку адкінуўшыся назад, яна не зварухнулася з месца і паглядзела на мяне, сказаўшы:

— Не.

Я абняў яе. І яна прытулілася да мяне, па-жаночаму абмяклая, абхапіла мае плечы сваімі моцнымі рукамі, якія так лёгка спраўляюцца з коньмі, прыціснула далоні да майго твару і прыцягнула да свайго... Трыццацігадовая жанчына,— мільганула ў мяне ў галаве,— старажытны і адвечны сімвал змяі-спакусніцы, столькі разоў апісаны;

і ў тое імгненне я адчуў, якая бяздонная прорва паміж жыццём і словам, зразумеў, што моцны чалавек — жыве, а той, хто нясцерпна пакутуе ад свайго бяссілля,— бярэцца за пяро. Потым я зноў пабачыў яе, убачыў усё той жа самы цёмны, непранікальны погляд, але цяпер крыху спадылба, таму што, схіліўшы галаву, яна зноў узняла рукі, нібыта збіраючыся мяне абняць, паўтараючы рытуальны жэст абяцанку, які я ўжо ніколі не змагу забыць. Вось яна, выставіўшы локці, падносіць рукі да галінкі вербены ў валасах, каб уставіць яе мне ў пятліцу, а я стаю пакорліва і ціха, не варушуся, гляджу на злёгку схіленую галаву, на каратка і няроўна пастрыжаныя валасы, на дзіўна, рытуальна заламаныя аголеныя рукі, якія слаба мігацяць у апошнім святле дня і думаю, што вайне, якая аднолькава паламала лёсы ўсіх жанчын Поўдня яе пакалення і саслоўя (ёй і цётцы Джэнні выпала на долю амаль адно і тое ж самае, толькі цётка Джэнні пабыла з мужам некалькі дзён і начэй да таго, як на павозцы для снарадаў ёй прывезлі яго забітым, а Друзіла з Гэвінам Брэкбрыджам і пажаніцца нават не паспелі),— вайне так і не ўдалося знішчыць індывідуальнасці жанчын: у іхніх вачах мінулае гора, але там, у самай патаемнай глыбіні,— невыкараняльнае непадабенства; а колькі на свеце мужчын, у чыіх спустошаных вайной душах жыве толькі тое, агульнае для іх усіх, перажытае, якое яны не здольныя забыць, дый не адважваюцца — інакш наогул ператворацца ў мерцвякоў; і нельга было б адрозніць іх адзін ад аднаго, калі б не застарэлая звычка ў кожным з іх адклікацца толькі на сваё імя.

— Я павінен сказаць бацьку.

— Так. Ты павінен сказаць бацьку. Пацалуй мяне.

І зноў паўтарылася ўсё тое, што было паміж намі. Не. Не двойчы, хоць бы тысячу разоў здарылася яно — усё роўна кожныя новыя абдымкі былі непаўторныя, неспадзяваныя, бясконца не падобныя да папярэдніх, якія выціскаюць з памяці папярэднія і захоўваюць іх у юнацкай душы — гэты адвечны сімвал — трыццаць гадоў: заўсёды

цнатлівы спрыт, які не ведае стомы, хітрамудрыя мышцы, адораныя той самай сілай, упэўнена накіроўваюць вусны да вуснаў, сілаю, што тоіцца ў локцях і кісцях і ўтаймоўвае коней. Калі яна ўжо адарвалася ад мяне і хуткімі крокамі адыходзіла ў начную цемрадзь, не гледзячы на мяне, яна толькі кінула цераз плячо:

— Скажы Джону. Сёння ж.

І я пайшоў дадому, каб сказаць бацьку наконт Рэдманда; увайшоў у кабінет, стаў чамусьці ў цэнтры дывана, пасланага перад камінам,— навыцяжку, як салдат, утаропіўшы вочы ў сцяну над яго галавой, прамовіў: «Бацька»,— і запнуўся, таму што ён мяне не чуў. Ён азваўся: «Так, Баярд?» — але не чуў, хоць нічым асаблівым не быў заняты, сядзеў нерухома, паклаўшы руку з патухлай цыгарэтай на стол побач з бутэлькай каньяку і недапітай чаркай, сядзеў ціхі, цяжка адурманены сваёй перамогаю на выбарах, пра якую даведаўся некалькі гадзін таму. Давялося чакаць да вячэры. У сталовай мы стаялі побач, пакуль не прыйшла цётка Джэнні, а за ёй Друзіла ў сваёй жоўтай бальнай сукенцы; яна накіравалася адразу да мяне, кінула на мяне непранікальны, загадкавы погляд і прайшла да стала. Мы падсунулі дамам крэслы: я — Друзіле, ён — цётцы Джэнні. Ён ужо ачуўся і хаця сам не пачынаў размовы, але час ад часу рабіў ласку і адказваў зрэдку Друзіле, якая шмат і горача нешта гаварыла,— адказваў ёй з пачцівай далікатнасцю, але фанабэрыста, у яго размовах апошнім часам з'явілася нешта прамоўніцкае: нібыта перадвыбарчая барацьба, поўная раз'юшанага пустаслоўя, прышчапіла адвакацкія манеры таму, у натуры якога нічога не было ад адваката. Калі мы засталіся сам-насам, ён сказаў мне: «Застанься са мною»,— хоць я і не збіраўся нікуды ісці, і Джобі прынёс бутэльку віна, закупленага ў Новым Арлеане, куды бацька ездзіў пазычаць грошы для пагашэння сваіх першых чыгуначных пазыкаў. Тут я зноў устаў навыцяжку, утаропіўшы вочы перад сабой, паўзверх галавы бацькі; ён сядзеў бокам да стала, ужо пацяжэлы, і ў валасах прабівалася сівізна, але

ў барадзе ні серабрынкі, у твары штосьці знарок прамоўніцкае, ганарыстыя вочы ахутаныя празрыстай плеўкай, што бывае ў драпежных жывёл, якія і бачаць свет праз гэтую бялёсую плеўку — недаступны і небяспечны для траваедных,— гэты выраз, што з'явіўся ў бацькі ў апошнія гады, я ўжо раней заўважаў у вачах тых людзей, якія шмат забілі на сваім вяку, і збавенне для іх ужо немагчыма. Я зноў паклікаў: «Бацька!» — і расказаў яму тое, пра што прасіў мяне Джордж Уайэт.

— Што? — спытаў ён, а потым дадаў: — Сядай.

Я глядзеў, як ён налівае бакалы, і зразумеў, што ён не пачуў зусім таго, што я яму расказаў, і горш за ўсё — яму ўсё гэта зусім не патрэбна.

— Суддзя Уілкінс задаволены тваімі поспехамі. Мне прыемна чуць гэта. Да сённяшняга дня я абыходзіўся без цябе, але цяпер ты мне спатрэбішся. Сваёй мэты я дасягнуў. Ад мяне патрабаваліся рашучыя дзеянні, я рабіў так, як мяне прымушалі месца і час, а ты быў надта малады, і я цябе ашчаджаў. Але краіна змянілася, надыходзіць іншы час. Наперадзе трэба замацаваць дасягненні; нас чакаюць непазбежныя цяжбы, судовыя справы, кручкатворства, а ў гэтым я — нібы тое немаўля. Але ты як юрыст здольны пастаяць за сябе — за нас. Так, я сваё зрабіў, і цяпер хачу трошкі ачысціцца ад брыдоты. Я стаміўся забіваць — усё роўна дзеля чаго. Заўтра ў мяне ў горадзе мае быць сустрэча з Бенам Рэдмандам. Я пакіну дома пісталет.

## III

Мы прыехалі дадому амаль апоўначы самым кароткім шляхам, прамінуўшы Джэферсан, пакінуўшы яго ўбаку. Не паспелі мы яшчэ збочыць у пад'язную алею, да брамы, як я ўбачыў, што ў холе, гасцінай і ў пакоі, які цётка Джэнні (без вялікіх намаганняў) прымусіла нават Рынга называць залай, свецяцца люстры ды кандэлябры, і святло ад іх падае на порцік і на зямлю перад каланадай. Калі мы

ехалі па алеі, я заўважыў чорныя сілуэты коней, цьмяны бляск жалеза і скуры іх збруі, потым распазнаў і людзей — Уайэта і іншых з эскадрона бацькі — я ж зусім забыўся на тое, што яны абавязкова тут будуць. Памятаю, ушчэнт стомлены ад язды і нервовага напружання, я яшчэ падумаў: *«Перадыху не будзе. Сёння ж ноччу мне давядзецца даваць адпор»*. Відаць, яны выставілі дазорных перад домам, таму што Уайэт адразу выйшаў мне насустрач, а астатнія скупіліся вакол яго з выглядам надзвычайнай урачыстасці, уласцівай жыхарам Поўдня пры такіх абставінах: яны былі падобныя да сцярвятнікаў, якія прагнуць крыві.

— Ну, хлапец...— сказаў Джордж.

— Як усё гэта...— вымавіў я.— Ці ён...

— Усё як мае быць. Ён стаяў тварам. Рэдманд не баязлівец. Як заўсёды, у Джона ў рукаве быў невялікі буйнакаліберны пісталет, але ён нават не крануў яго і рукі нават не ўзняў.

Мне давялося аднойчы бачыць, як ён гэта рабіў: аднаго разу бацька паказаў мне гэты прыём; свой кароткі (няпоўныя чатыры цалі даўжынёю) пісталет ён насіў прымацаваным да левага запясця з дапамогай бранзалета, зробленага ім самім з дроту і старой гадзіннікавай спружыны; ускінуўшы абедзве рукі, ён страляў з-пад левага локця, нібы загароджваючы вочы ад сваёй ахвяры. Аднойчы ён нават зрабіў дзірку ад кулі на сваім рукаве.

— Аднак вам трэба ехаць дамоў: вас там чакаюць,— ды перш, як саступіць мне дарогу, ён дадаў: — Але мы можам вас пазбавіць ад гэтага клопату... Кожны з нас можа ўзяць на сябе ўсё гэта. Я магу гэта зрабіць.

Не паспеў я адказаць ці крануць з месца каня, як ён прадоўжыў, нібыта загадзя падрыхтаваў гэтую прамову, прадугледзеўшы нават мае адказы, і цяпер ён гаварыў дзеля простай фармальнасці — як здымаюць брыль, уваходзячы ў дом, ці гавораць «сэр» незнаёмаму чалавеку.

— Ты яшчэ зусім хлопчык, ты не маеш вопыту ў такіх справах. Да таго ж на твае плечы лёг клопат пра дзвюх жанчын. Не турбуйся, ён бы цябе зразумеў.

— Думаю, што я здолею зрабіць усё сам.

— Вядома,— вымавіў ён, і ў голасе яго не чуваць было ні каліва здзіўлення: ён загадзя ведаў мой адказ.— Мы ўсе былі ўпэўнены, што ты адкажаш менавіта так.

Ён зрабіў крок убок, і мая кабылка кранулася з месца, нібыта не па маёй, а па яго волі. Яны рушылі ўслед з той самай прагнай, драпежнай, хцівай урачыстасцю сцярвятнікаў. І тут я ўбачыў Друзілу, якая стаяла ў жоўтай бальнай сукні сярод калон порціка на вяршыні лесвіцы ў святле, што лілося з адчыненых дзвярэй і акон, як на сцэне тэатра; і нават адсюль, на адлегласці ад яе, мне здавалася, што я адчуваю, як саладка пахнуць вербены ў яе валасах,— стаіць нерухома ў сваёй жоўтай бальнай сукні, і ўсё-такі з яе нібыта выварагаецца аглушальны крык — нешта вельмі прагавітае, гарачае, палкае, неўтаймаванае, гучнейшае за тыя два стрэлы, што забілі бацьку. Потым я спешыўся, і кабылку павялі; а мне здавалася, што я ўсё яшчэ ў сядле і назіраю за тым, як узыходжу на сцэну, якую яна ўзвяла ў сваім уяўленні, яшчэ адным акцёрам, а ўглыбіні застылі, нібы антычны хор, Уайэт і яго паплечнікі ў ялейнай урачыстасці, з якой сустракае кожны жыхар Поўдня чужую смерць, з паважнай прагай да крывавых ідовішчаў, якія ўзніклі яшчэ ў Старажытным Рыме, потым былі пераасэнсаваныя пратэстантызмам, народжаным у імглістым, туманным, пахмурным Альбіёне, і нарэшце перасаджаныя ў гэты край лютай спёкі і лютай сцюжы, якія загартавалі чалавека снегам і спёкаю так, што цяпер ён не баіцца ні таго, ні другога. Я ўзышоў па прыступках, наблізіўся да яе фігуры — прамой, жоўтай і нерухомай, як свечка; яна толькі паварушылася, каб падаць мне руку. Мы сталі побач, пазіраючы на натоўп унізе, а за ім, на мяжы асветленай прасторы, скупіліся коні; адзін з іх тупнуў капытом, пырхнуў, бразнуў стрэмем.

— Дзякуй вам, джэнтльмены,— сказаў я.— Мая цётка і мая... і Друзіла... мы ўсе ўдзячныя вам. Не будзем вас больш затрымліваць. Дабранач.

Яны глуха забурчэлі і павярнуліся, каб пайсці. Толькі Джордж Уайэт азірнуўся на мяне і кінуў:

— Значыцца, заўтра?

— Заўтра.

І яны пайшлі, трымаючы ў руках брылі; ішлі на дыбачках нават па зямлі, мяккай і пругкай, нібыта той, хто спаў адзіны ў доме ў гэты час, мог прачнуцца. Калі яны ўсе пайшлі, мы з Друзілай павярнуліся і накіраваліся да дзвярэй; яе рука лёгка ляжала на маёй, ледзь дакранаючыся да майго запясця, але, нібыта электрычны разрад працінаў усё маё цела, яе цёмная шалёная драпежнасць калаціла ўсю маю істоту, каля майго пляча плыла вербена ў каротка пастрыжаных валасах, а вочы яе глядзелі на мяне з захапленнем і шаленствам. Мы прайшлі праз хол — яе рука вяла мяне без асаблівых намаганняў,— увайшлі ў залу, я адразу адчуў тую змену, якую нясе ў сабе смерць: яна была не ў тым, што ён быў ужо нежывым прахам, але ў тым, што ён цяпер ляжаў. Але я яшчэ не павярнуў да яго галавы, бо ведаў: калі я толькі гляну на яго, у мяне зойме дух і не будзе чым дыхаць. Я падышоў да цёткі Джэнні, што паднялася мне насустрач з крэсла, за якім стаяла Лувінія. Цётка Джэнні была сястра бацькі, крыху вышэйшая за Друзілу, але не старэйшая за яе; на самым пачатку вайны яна страціла мужа (яго забілі ў форце Моўлтры[1] снарадам, пушчаным з фрэгата паўночнікаў) і шэсць гадоў таму пераехала да нас з Караліны. Мы з Рынгам у фургоне паехалі тады сустракаць яе на станцыі Тэнесі. Стаяў студзень, халодны і ясны; каляіны былі зацягнутыя ледзяной коркай. Дамоў мы вярталіся на козлах, з карункавым парасонам у руках, а Рынга мясціўся ў кузаве, трымаючы на каленях кошык з дзвюма бутэлькамі херасу, двума чаранкамі язміну, якія цяпер зрабіліся ўжо кустамі ў нашым садзе, і каляровымі шкельцамі, якія яна павыцягвала з вокнаў у доме, дзе нарадзілі-

[1] Моўлтры — форт у бухце Чарлстана (Паўднёвая Караліна) на востраве Сэліван, месца першых сутычак арміі Поўдня з федэральнымі войскамі.

ся яна, бацька і дзядзька Баярд (каб зрабіць ёй прыемнае, бацька потым уставіў гэтыя каляровыя шкельцы веерам у акно гасцінай); мы праехалі па алеі да дома, і бацька, які вярнуўся з чыгункі, сышоў з прыступак, памог ёй злезці з козлаў і сказаў: «Добры дзень, Джэнні!», а яна адказала: «Добры дзень, Джонні!» — і заплакала. А цяпер яна стаяла і глядзела на мяне, такая ж гарбаносая, як бацька, тыя самыя валасы, тыя самыя вочы, але пазіраюць яны не ганарыста і фанабэрліва, а ўважліва і мудра. Я падышоў да яе; яна нічога мне не сказала, толькі злёгку прыцягнула да сябе за плечы і пацалавала. І тут зазвінеў голас Друзілы — нібыта яна толькі чакала, з шалёнай нецярплівасцю чакала канца гэтай фармальнасці. Ясны, як метал, бяздушны, аднатонны, серабрысты, урачысты быў у яе голас:

— Падыдзі да мяне, Баярд.

— Табе трэба крыху адпачыць з дарогі,— прапанавала цётка Джэнні.

— Не,— перарвала яе Друзіла тым жа самым серабрыстым экзальтаваным голасам.— Э, не... Адаспацца ён яшчэ паспее...

І зноў яе рука без асаблівых намаганняў лёгка павяла мяне, і толькі цяпер я паглядзеў на яго. Усё гэта я так сабе і ўяўляў — шабля, плюмаж і іншае, але ўсё гэта было непапраўна другое (толькі ў тое імгненне я ясна ўсвядоміў гэтую беспаваротнасць — так тое, што праглынуў, можа некаторы час знаходзіцца ў страўніку каменем, не засвойваючыся), па-другому бясконцымі былі гора і жаль, з якімі я глядзеў на родны твар — нос, валасы, павекі, пад якімі хавалася напышлівасць ягонага погляду,— на твар, які я ўпершыню бачыў уціхамiраным, на рукі, бяздзейныя і здранцвелыя, на рукі, заплямленыя непатрэбнай крывёю (прынамсі, аднойчы яна была праліта зусім дарэмна), на рукі, няўклюдныя нават у цяперашняй сваёй нерухомасці, якія, аднак, зрабілі тое, што яго праследавала, відаць, і ўдзень, і ўначы, так што ён быў цяпер рады забыцца,— дзіўныя гэтыя прыдаткі, нязграбныя ад прыроды і ўсё-такі прыстасаваныя чалавекам для дзеянняў разнастайных,

неспадзяваных і недаравальных — зараз яны расціснуліся і выпусцілі жыццё, за якое чапляліся так шалёна і адчайна... І тут я адчуў, што ў мяне перахапіла дых. Відаць, Друзіле давялося двойчы вымавіць маё імя, перш чым я павярнуўся, убачыў, што цётка Джэнні і Лувінія глядзяць на нас, пачуў, што з голасу Друзілы знікла звонкая, абыякавая нота і ў ціхім, напоўненым смерцю пакоі голас яе гучыць цяпер ціха і палка. Яна стаяла зусім блізка, павярнуўшыся да мяне, зачароўваючы мяне зноў узмоцненым у сто разоў пахам вербены, і працягвала мне два дуэльныя пісталеты.

— Вазьмі, Баярд,— вымавіла яна тым жа тонам, як некалі сказала «Пацалуй мяне», і падала пісталеты, пазіраючы на мяне сваім драпежным і палымяным поглядам, гаворачы голасам палкім, ціхім, у якім хавалася абяцанне.— Вазьмі іх. Я берагла іх для цябе і зараз аддаю. О, ты будзеш мне ўдзячны, будзеш памятаць мяне, якая дала іх табе ў рукі зброяй боскай кары, адняла іх для цябе ў нябёсаў. Ці адчуваеш ты іх — гэтыя хутка ўзведзеныя куркі, гэтыя доўгія ствалы, якія б'юць без промаху (ты ўжо выпрабаваў іх), прамыя і імклівыя, як помста, усёмагутныя і пагібельныя, як каханне?

І зноў, як тады, падняла яна рукі да валасоў, няўлоўна і жвава выцягнула з іх вербену, адну галінку ўсунула мне ў пятліцу, другую скамячыла пальцамі, гаворачы шпаркім, палкім, ціхім голасам:

— Вось гэтую галінку даю табе — насі яе заўтра, яна не завяне,— а гэтую адкідаю прэч...— І кінула сабе пад ногі.— Канец. Развітваюся з вербенаю. Я заглушала ёю пах мужнасці, таму яна і была мне патрэбна. Дай паглядзець на цябе.

Яна зрабіла крок назад, падняла да мяне твар, без слёз, натхнёны; утаропіла ў мяне драпежны, з палкім бляскам, погляд:

— Ты не ведаеш, які ты прыгожы! Зусім яшчэ малады, а табе наканавана забіць, адпомсціць, голымі рукамі зда-

быць агонь з нябёсаў, які абпаліў і звергнуў Люцыпара[1]. Не, гэта я сама прынесла яго табе. О, ты будзеш мне ўдзячны, калі я памру, і ты ўсё будзеш памятаць мяне і — зусім ужо стары — гаварыць сабе: «Я спазнаў усё». Гэта здзейсніць твая правая рука?

Хуткім рухам — перш чым я зразумеў, што ён значыць,— яна схапіла маю правую руку, якая па-ранейшаму трымала адзін з пісталетаў, нахілілася і пацалавала; я не паспеў адняць руку. Але тут яна сцішылася, усё яшчэ ў позе палкай пакоры, гарачымі губамі і пальцамі кранаючы маю скуру — дотыкам лёгкім, як сухое лісце; але ад іх струменіў той электрычны зарад — цёмны, шалёны, нястрымны,— які назаўсёды пазбаўляе спакою. Сцішылася, таму што жанчыны мудрыя: кранудца губамі ці рукою — і таемныя веды, часам празорлівасць, перадаюцца сэрцу, мінаючы марудлівы мозг. Потым выпрасталася, утаропілася ў мяне з непераносным, невыказным, нясцерпным і недаверлівым здзіўленнем — яно было відно на ўсім яе твары, але вочы былі яшчэ зусім пустыя; і амаль хвіліну, здавалася, стаяў я і чакаў, пакуль з вачэй знікне пустэча, а цётка Джэнні і Лувінія глядзелі на нас. Ні крывінкі не было ў твары Друзілы, губы прыадкрытыя і бясколерныя, нібы гумавае кольца, якім запячатваюць слоікі з варэннем. Але неўзабаве вочы яе напоўніліся — пякучым усведамленнем здрады.

— Дык ён і не...— сказала Друзіла.— Ён і не... *А я яму руку пацалавала!*

І засмяялася: смех узмацніўся і перайшоў у крык; яна рагатала, закрываючы рот рукою, імкнучыся заглушыць гэты рогат (які прасочваўся праз пальцы, падобны да вывергнутай ежы), не адводзячы ад мяне недаверлівага, гаротнага, тужлівага погляду.

---

[1] Люцыпар. Пад гэтым імем хаваецца Сатана — былы архангел, якога Бог скінуў з нябёсаў за ягонае непаслушэнства. У аснове ляжыць памылковая трактоўка радкоў з біблейскай кнігі прарока Ісаіі: «Як упаў ты з неба, заранка, сын зары! разбіўся аб зямлю, той, хто зневажаў народы» (14, 12). Заранка — ранішняя зорка, Венера, Мілавіца.

— Лувінія,— паклікала цётка Джэнні. Абедзве яны наблізіліся да Друзілы, Лувінія абняла яе, прытрымліваючы. Друзіла павярнулася тварам да Лувініі.

— *Я яму руку пацалавала!* — закрычала яна.— Ты бачыла — *руку пацалавала!*

І зноў смех перайшоў у лямант, у рогат, і зноў яна спрабавала стрымліваць яго рукой, як дзіця, занадта напхаўшы ежы ў рот.

— Завядзі яе наверх,— сказала цётка Джэнні. Але Лувінія і без гэтай прапановы ўжо ішла да дзвярэй, падтрымліваючы, амаль несучы Друзілу; і смех саслабеў, але за дзвярыма зноў узмацніўся, нібыта ажыў на прасторы пустога і ярка асветленага хола. Потым зрабілася ціха, і я адчуў, што пачынаю задыхацца. Млосць падступіла да горла, і не стала чым дыхаць — лёгкім не хапала паветра ў пакоі, у доме, ва ўсім гэтым свеце, пад цяжкім, душным, нізка навіслым небам, дзе сонца быццам ніяк не можа павярнуць на зіму. І ўжо цётцы Джэнні давялося двойчы паўтарыць: «Баярд! Баярд!»

— Ты не хочаш забіваць яго. І не трэба.

— І не трэба?

— Так, і не трэба, Баярд. Істэрыка беднай Друзілы нічога тут не вырашае, і ён не вырашае, бо яго ўжо няма ў жывых. І ні Джордж Уайэт, ні іншыя, што будуць чакаць цябе заўтра. Ты не баішся, я ведаю.

— Што з таго? — сказаў я.— Хіба гэта выйсце? (У мяне сціснула горла, але я паспеў стрымацца і не заплакаў.) Я абавязаны давесці сам сабе.

— Значыцца, ты пойдзеш не толькі дзеля Джорджа Уайэта і жыхароў Джэферсана?

— Не толькі,— адказаў я.

— Абяцай мне, што раніцай пабачышся са мною, перад тым як пойдзеш з дому.

Імгненне мы глядзелі адно на аднаго. Яна хуценька абняла мяне, пацалавала.

— Дабранач, хлопча.— І пайшла гэтаксама. Стрымлівацца мне ўжо не было патрэбы. Я ведаў, што зараз зірну

на яго і камяк падступіць да горла,— і я сапраўды зірнуў, адчуў, як у мяне пераняло дых, і ў гэтае імгненне я падумаў, што трэба яшчэ сказаць: «Бывай, бацька!»,— але не змог. Я адышоў ад труны і асцярожна паклаў пісталеты на раяль, усё яшчэ імкнучыся аддаліць пачатак. Выйшаў на ганак і (не ведаю, колькі прайшло часу) паглядзеў у акно і ўбачыў, што каля бацькі скурчыўся на табурэце Сайман. Усю вайну Сайман быў яго дзеншчыком і вярнуўся дамоў у шынялі салдата Поўдня, аздобленай зоркай брыгаднага генерала Поўначы; і цяпер ён быў у форме, як бацька, і, скурчыўшыся каля яго на табурэце, не плакаў, не ліў горкіх і марных слёз, якія так лёгка ліюць белыя; але не такія негры,— проста сядзеў, нерухомы, і ніжняя губа ў яго злёгку адвісла. Вось падняў руку, дакрануўся да дамавіны чорнымі пальцамі, жарсткаватымі і крохкімі на выгляд, нібы пучок сухіх галінак, зноў апусціў руку; потым павярнуў галаву, пазірае, не міргаючы, чырванаватымі, як у загнанага ліса, вачыма. А ў мяне пачалося ўжо, я стаяў, цяжка дыхаючы (не хапала паветра), захлынаючыся жалем, спагадай, горам, адчаем, што выпальвалі душу і пакідалі пасля сябе трагічны, безгалосы, бессардэчны, здранцвелы касцяк, здатны вынесці ўсё, абсалютна ўсё на свеце.

## IV

Неўзабаве казадоі змоўклі, і я пачуў першую дзённую птушку — перасмешніка. Ён спяваў усю ноч, але цяпер гэта была дзённая песня, а не паўсонны, дрымотны, лунацічны свіст. Потым падалі голас астатнія — зацвыркалі вераб'і каля стайні, заспяваў сваю ранішнюю песню дрозд, які жыў у садзе цёткі Джэнні; я пачуў перапёлку з выгану — і ў пакоі пачало віднець. Але я не адразу падняўся. Я ляжаў на пасцелі (я не распранаўся), сашчапіўшы рукі за галавою, адчуваючы слабы пах вербены, які сыходзіў ад кінутага на крэсле сурдута, і пазіраў, як разліваецца па пакоі святло, паступова ружавеючы ад сонца. Крыху

пазней прайшла праз двор Лувінія, рыпнула кухоннымі дзвярыма, загрымела дровамі, зваленымі ў скрынку каля пліты. Хутка пачнуць з'язджацца цераз браму брычкі і экіпажы, але не цяпер, пазней,— спярша яшчэ яны пабачаць, што я збіраюся рабіць. Калі я спусціўся ў сталовую, у доме было яшчэ ціха, не чутно ні гуку; толькі Сайман хроп у зале, дзе ён, відаць, па-ранейшаму сядзеў на табурэце,— я туды не зазірнуў. Крыху пастаяўшы каля акна ў сталовай, я выпіў кубачак кавы, які прынесла Лувінія, і напраскі пайшоў у стайню. Джобі назіраў, як я іду па двары; у стайні ўзняў вочы Люш, які чысціў Бэтсі скрабніцай, але Рынга не глянуў ні разу. Мы пачалі чысціць Юпітэра. Я не ведаў, ці дазволіць ён падысці да яго: бацька, бывала, заўсёды спачатку наблізіцца да яго, пагладзіць, загадае стаяць нерухома, і той паслухмяна стаіць, нібы з мармуру высечаны (дакладней, адліты з бледнай бронзы), пакуль Люш яго чысціць. Але конь мяне паслухаўся і хоць неспакойна, але выстаяў. Калі мы скончылі, было ўжо амаль дзевяць; хутка яны пачнуць з'язджацца, і я загадаў Рынгу падаць Бэтсі да ганка дома.

Я вярнуўся ў дом. Горла ўжо не сціскала, як уначы, але ўдушша прытаілася і чакала; яно было часткай агульных змен, нібыта са смерцю бацькі вытхнулася — цяпер ужо непатрэбнае — усё паветра, колькі яго было змешчана, абмежаванага паміж узведзеных бацькам сцен. Цётка Джэнні ўжо чакала мяне; яна адразу ж выйшла з сталовай у хол, поўнасцю апранутая, гладка зачасаныя валасы, зусім бацькавы, але вочы не ганарыстыя, а ўважлівыя, сур'ёзныя і па-мудраму спагадлівыя.

— Ужо едзеш?

— Так.— Я ўважліва паглядзеў у яе вочы: не, дзякуй Богу, жалю ў іх няма.— Я хачу, каб пра мяне думалі добра.

— Я і так думаю пра цябе добра,— сказала яна.— Нават калі б ты на цэлы дзень схаваўся ў пуні, усё адно я б цябе паважала.

— Можа, калі [redacted] яна ведала, што я еду... што ўсё адно еду ў горад...

— Не,— адказала цётка Джэнні.— Не, Баярд.

Потым, глянуўшы мне ў твар, спакойна дадала:

— Што ж, добра. Яна ўжо прачнулася.

І я пайшоў наверх. Я падымаўся па лесвіцы павольна, каб не абудзіць удушша, не прыпыніцца дзе-небудзь на павароце — тады ў мяне не стане сілы ісці далей. Я спакойна падышоў да яе дзвярэй, пастукаўся, адчыніў. Яна сядзела каля акна ў нечым ранішнім і прасторным, аднак яна ніколі не выглядала па-ранішняму, па-спальнаму, бо для гэтага патрэбны валасы, распушчаныя па плячах. Яна ўзняла галаву, утаропілася ў мяне ліхаманкава бліскучым поглядам, і я нагадаў, што ў пятліцы сурдута ўсё яшчэ вытыркаецца ўчарашняя вербена, і знянацку яна зноў засмяялася. Здавалася, смех вырваўся ў яе не з губ, а выступіў потам па ўсім твары; нібыта выверджаны нейкай пакутлівай ірвотнай сутаргай, якая ўзнікла ў зусім пустым страўніку, пырснуў з усяго твару, апроч вачэй, бліскучых вачэй, якія не маглі паверыць і пазіралі на мяне скрозь смех, нібы два чужародныя целы, два кавалачкі застылай смалы ці вугалю, кінутыя на дно бурлівай пасудзіны.

— А я яму руку пацалавала! *Руку пацалавала!*

Увайшла Лувінія. Пэўна, цётка Джэнні адразу ж паслала яе наверх, услед за мной.

І зноў я павольна, каб не задыхнуцца, спусціўся ўніз, туды, дзе цётка Джэнні стаяла пад люстрай, як учора місіс Уілкінс. У руках яе быў мой брыль.

— Нават калі ты ўвесь дзень праляжыш на адрыне ў стайні, Баярд,— сказала яна. Я ўзяў брыль; яна працягвала гаварыць роўна, з усмешкаю, нібыта забаўляла размовай госця: — Я жыла ў Чарлстане[1] падчас блакады. Тыя, хто прарываўся да нас, былі ў нашых вачах героямі не таму, што працягвалі весці вайну, а вось, як Дэвід

[1] Чарлстан — порт у Паўднёвай Караліне, дзе летам 1863 г. федэральныя войскі ажыццявілі блакаду, але толькі на пачатку 1865 г. гэтая апора канфедэратаў пала.

Крокет[1] ці Джон Севір[2],— героі для хлапчукоў і маладзенькіх дурніц. Там быў адзін англічанін. Вядома, ён пайшоў на тую вайну дзеля грошай, як і ўсе чужынцы. Але для нас ён быў герой, мы ж тады ўжо забыліся на тое, што такое грошы. Ён, пэўна, быў з арыстакратаў (толькі прозвішча змяніў) ці вадзіўся з імі ў Англіі, а слоўнік ягоны складаўся з пяці слоў: што праўда, іх яму тады якраз хапала. Першыя тры былі: «Дзякуй, мне рому», а калі яму прыносілі ром, ён дадаваў яшчэ два словы, якія адрасаваў паверх бакалаў з шампанскім якой-небудзь дэкальтаванай дамачцы: «Далоў шыпучку». Далоў шыпучку, Баярд.

Рынга чакаў каля каланады порціка з асядланай Бэтсі. Твар у яго быў пахмурны; ён нават не ўзняў вачэй, калі падаваў павады. Але ён нічога не сказаў, дый і я не азірнуўся. Я выехаў якраз своечасова: каля брамы сустрэў экіпаж Компсанаў; генерал прыўзняў брыль, я — свой. Да горада чатыры мілі, але я не паспеў праехаць і дзвюх, як пачуў за сабой конскі тупат, і не азірнуўся, ведаючы, што гэта скача Рынга. Я не азірнуўся, ён нагнаў мяне — пад ім быў адзін з запражных коней,— павярнуў да мяне пахмурны твар, кінуў кароткі ўпарты позірк і паехаў побач. Нарэшце мы ў горадзе — доўгая цяністая вуліца, якая вядзе да пляца, дзе стаіць новы будынак суда. Было адзінаццаць гадзін, час снедання даўно мінуў, а поўдзень яшчэ не надышоў; насустрач траплялся адны жанчыны, і яны мяне не пазнавалі; прынамсі, ніхто з іх не спыняўся знянацку, не ступіўшы на зямлю нагою, якая нібыта загледзелася і прыпыніла дых. Усё пачнецца на пляцы, і я падумаў: *«Калі б толькі можна было зрабіцца*

---

[1] Крокет Дэвід (1786—1836) — амерыканскі палітычны дзеяч, які зрабіўся фальклорным героем,— увасабленнем духу амерыканскага Захаду. Да Грамадзянскай вайны ў розных гарадах ЗША выдаваліся альманахі з апісаннем эксцэнтрычных прыгод Дэвіда Крокета.

[2] Севір Джон (1745—1815) — легендарны герой вайны за незалежнасць ЗША, першы губернатар штата Тэнесі (1796—1801, 1803—1809), дзе з яго ўдзелам было створана першае сталае пасяленне.

*невідочным адсюль і да дзвярэй, да лесвіцы».* Але зрабіць гэта немагчыма, і, праязджаючы міма гатэля, я краем вока пабачыў, як цэлы шэраг ног уздоўж парэнчаў веранды ціха і адначасова дакрануўся да зямлі. Я спыніў каня, пачакаў, пакуль спешыцца Рынга, злез з сядла сам і перадаў яму повад.

— Пачакай мяне тут,— сказаў я.

— Я пайду з табою,— адказаў ён пахмурна: мы стаялі, адчуваючы на сабе цікаўныя погляды, і ціха перагаворваліся, як два змоўшчыкі. Пад кашуляй у Рынга я заўважыў пісталет,— відаць, той самы, які мы аднялі ў Грамбі, калі забілі яго.

— Не, ты застанешся тут,— сказаў я.

— Не, пайду.

— Ты застанешся тут.

І я пайшоў да пляца, пад гарачым сонцам. Быў амаль што поўдзень, вербена ў маёй пятліцы пахла так, нібы ўвабрала ў сябе ўсё сонца, усю яго пакуту ад няздзейсненага павароту на зіму, і рабіла больш невыносным гэтую шалёную спякоту; і я ішоў у воблаку вербены, нібы ў воблаку тытунёвага дыму. Аднекуль знянацку побач са мной з'явіўся Джордж Уайэт, а за ім, крокаў за некалькі ззаду, яшчэ пяць-шэсць бацькавых аднапалчан. Джордж узяў мяне пад руку, далей ад прагных, што як бы сцішылі дых, вачэй.

— Бацькаў пісталет пры табе? — спытаў ён.

— Не,— адказаў я.

— Маеш рацыю,— ухваліў Джордж.— Яго пісталет — не дужа надзейны. Толькі палкоўнік сам па-сапраўднаму валодаў ім. А я дык і не навучыўся як след ім карыстацца. Вазьмі лепей гэты. Я сёння яго выпрабаваў — страляе выдатна.

Ён пачаў упіхваць пісталет мне ў кішэню, але тут з ім здарылася тое самае, што і з Друзілай, калі яна пацалавала мне руку,— вестка, варожая няхітраму кодэксу гонару, паводле якога ён жыў, перадалася яму праз дотык, мінаючы мозг, і ён раптам адхіліўся ад мяне з пісталетам у руцэ,

утаропіўся ў мяне бледнымі, шалёнымі вачамі, зашыпеў сціснутым ад лютасці шэптам:

— Ты хто? Сарторыс ты, ці не? Калі не ты — слова гонару, я сам яго заб'ю.

Не ўдушша цяпер адчуваў я, а неадольнае жаданне рассмяяцца, зарагатаць, як Друзіла, і сказаць: «Друзіла таксама здзівілася». Але я стрымаўся. Я адказаў:

— Гэта мая справа. Не трэба нікому ў яе ўлазіць. Я абыдуся без вашай дапамогі.

Вочы ў яго пачалі патухаць — чыста як лямпа, якую выкручваюць.

— Добра,— сказаў ён, хаваючы пісталет.— Прабач, сынок. Я павінен быў ведаць, што ты не прымусіш бацьку варочацца ў дамавіне ад ганьбы. Мы пойдзем за табой і пачакаем на вуліцы. І памятай: ён храбры чалавек, але ўжо з учарашняга дня сядзіць там самотны ў канторы, чакае цябе, і нервы ў яго цяпер на ўзводзе.

— Я прыму гэта пад увагу,— сказаў я.— Я сам упраўлюся. Я ўсё зраблю сам.— І ўжо адыходзячы, я знянацку дадаў зусім неспадзявана: — Далоў шыпучку.

— Што? — перапытаў мяне Джордж.

Я не адказаў. Я пайшоў праз пляц, заліты гарачым сонцам, а яны пацягнуліся за мной, трымаючыся воддаль — так, што пабачыў я іх ужо пасля,— пайшоў пад пільнымі позіркамі тых, хто стаяў каля магазінаў і каля суда і сачыў за кожным маім крокам здалёк, чакаючы. Я ішоў павольна, ахутаны шалёным водарам вербены. Цень ад дома лёг на мяне, але я не прыпыніўся, толькі кінуў позірк на пацьмянелую шыльду: «Б.-Дж. Рэдманд, юрыст», і стаў узыходзіць па лесвіцы, па драўляных прыступках, заплямленых тытунёвымі пляўкамі, вытаптаных цяжкімі, нязграбнымі ботамі сялян, якія прыходзілі сюды судзіцца; дайшоў па цёмным калідоры да надпісу «Б.-Дж. Рэдманд», стукнуў раз і адчыніў дзверы. Ён сядзеў за пісьмовым сталом, рупліва паголены, з найбялейшым каўняром. Ён быў крыху вышэйшы за бацьку ды грузнейшы — што сведчыла пра яго сядзячую прафесію; але

тварам ён быў не падобны на адваката: надта хударлявы для такога тоўстага тулава, трывожны (нават трагічны — так, цяпер я гэта разумею), змораны і знясілены. Ён сядзеў, млява паклаўшы руку на пісталет (нікуды не нацэлены), які пляската ляжаў на стале. Акуратна прыбраны цьмяны пакой не пах ні спіртным, ні нават тытунём, хоць я ведаў, што ён курыць. Я не прыпыніўся, а павольна ішоў на яго. Ад дзвярэй да стала было не болей як дзесяць крокаў; але здавалася, я іду, як у сне, дзе няма ні часу, ні адлегласці, ні прасторы, і мае крокі так мала звязаны з пераадоленнем прасторы, як і яго сядзенне за сталом. Абодва мы маўчалі. Нібыта ведалі наперад усё, што можна сказаць, і ведалі: ніякай карысці ад размоў не будзе. Як ён скажа: «Ідзі, Баярд, ідзі адсюль, хлопча»,— а потым: «Даставай жа пісталет. Я чакаю»,— і ўсё застанецца такім, калі [redacted] нават гэтых слоў і не было. І мы маўчалі, я напрасткі ішоў да стала, на ўзняты пісталет, глядзеў, як рухаецца ўверх ягоная рука, як укарочваецца ў ракурсе ствол пісталета, і бачыў, што куля пройдзе міма, хоць рука ў яго і не трымцела. Я ішоў на яго, на руку з пісталетам, і не пачуў кулі. Магчыма, я нават не пачуў стрэлу, хоць памятаю, як знянацку расцвіла дымная аранжавая ўспышка на фоне белай кашулі (як памятаю яе на фоне бруднага шыняля Грамбі); я па-ранейшаму глядзеў у рулю пісталета, ведаў, што яна на мяне нацэлена; другі раз убачыў аранжавы выбух і дым і зноў не пачуў кулі. Я прыпыніўся. На гэтым усё скончылася. Я глядзеў, як пісталет нахіляецца да стала кароткімі штуршкамі, як расціскаюцца пальцы, як Рэдманд адкінуўся назад, паклаўшы на стол рукі, і па ягоным твары я зразумеў, як яму цяжка,— я ж ведаў ужо, што значыць, калі няма чым дыхаць. Ён падняўся, сутаргавым жэстам адкінуў убок крэсла, дзіўнавата і скоса нахіліў галаву, потым, выцягнуўшы адну руку перад сабой, як сляпы, а другой цяжка абапіраючыся аб стол, павярнуўся і, усё яшчэ з нахіленай галавой, накіраваўся да вешалкі каля сцяны, узяў брыль, пайшоў уздоўж сцяны, міма мяне, да дзвярэй і выйшаў прэч. Ён быў

смелы: гэтага ў яго не аднімеш. Ён спусціўся па лесвіцы, надзеў брыль, выйшаў на вуліцу, дзе чакалі Джордж Уайэт і астатнія шасцёра бацькавых аднапалчан і куды ўжо пазбягаліся іншыя людзі. Ён прайшоў сярод іх з высока ўзнятай галавой (мне пасля ўжо казалі, што нехта крыкнуў яму наўздагон у спіну: «дык вы і хлопчыка забілі?»), моўчкі, гледзячы прама перад сабой, дайшоў да вакзала, як быў, без анічога, сеў у адыходзячы на Поўдзень цягнік і паехаў, знік з горада і штата.

Пачуўся тупат мноства ног — па лесвіцы, на калідоры, у пакоі. Але я яшчэ некаторы час (не так ужо і доўга, зразумела) працягваў сядзець за сталом, як калісьці ён, паклаўшы на ўсё яшчэ цёплы ствол далонь, якая паволі здранцвела паміж пісталетам і лбом. Калі я ўзняў галаву, пакой быў перапоўнены людзьмі.

— Каб яго чорт узяў! — ускрыкнуў Джордж Уайэт.— Ты адняў у яго пісталет і прамахнуўся два разы запар? — І адказаў сам сабе: яму падказаў інстынкт Друзілы, у Джорджа яшчэ болей абвостраны: — Не, пачакай. Ты ўвайшоў — нават без сцізорыка — і дазволіў яму двойчы стрэліць, і ён прамахнуўся. Божухна літасцівы!

Ён павярнуўся і крыкнуў:

— Выходзьце адгэтуль усе. Ты, Вайт, едзь да Сарторысаў і скажы ім, што ўсё ўжо скончылася і ён жывы-здаровы. Ну, хутчэй!

Усе пайшлі, застаўся толькі Джордж, які не зводзіў з мяне свайго бясколернага, раздумлівага (аднак зусім не разважлівага) погляду.

— Вось гэта нумар ты выкінуў! — сказаў ён.— Выпіць хочаш?

— Не,— адказаў я.— Хачу есці. Я не снедаў.

— Разумею. Калі такое задумаў, хіба якое снеданне ў рот палезе? Уставай. Пойдзем у гатэль.

— Не,— сказаў я.— Туды не хачу.

— Чаму? Саромецца табе няма чаго. На тваім месцы я зрабіў бы інакш. Хоць раз, ды стрэліў бы па ім. Але гэта твой клопат.

— Так,— сказаў я.— Я зноў бы зрабіў тое самае.

— Як сабе хочаш. Тады пойдзем да мяне. Перакусім, а потым паедзем і якраз паспеем на пахаванне.

Але я і на гэта не пагадзіўся.

— Не,— сказаў я.— Бадай, я і есці не хачу. Паеду дадому.

— А можа, усё-такі пачакаеш, разам паедзем?

— Не. Я паеду.

— Як хочаш; аднак тут табе заставацца няма чаго.

Міргаючы злоснымі, бледнымі, неразважлівымі вачамі, ён зноў абвёў імі пакой, спякотнае, змярцвелае паветра якога яшчэ захоўвала смурод пораху, хоць дым ужо разышоўся.

— Каб мяне чорт узяў,— ізноў вырвалася ў яго.— Можа, ты і сапраўды маеш рацыю, можа, хопіць ужо крыві на вашай сям'і. Пойдзем!

Мы выйшлі. Спусціўшыся па лесвіцы, я крыху пачакаў, пакуль Рынга не падвёў коней. Мы перасеклі пляц. Парэнчы веранды ўжо апусцелі (было дванаццаць), але каля ўвахода ў бар стаялі людзі, яны прыпаднялі брылі: я зрабіў тое самае, і мы з Рынгам паехалі далей.

Мы не спяшаліся. Калі даехалі да выгану, была ўжо гадзіна, а можа, і болей; неўзабаве экіпажы і брычкі пацягнуліся ад пляца да нашага дома, і я звярнуў з дарогі, спыніў Бэтсі, пачаў адчыняць брамку, не сходзячы з сядла. Рынга спешыўся і адчыніў. Коні пайшлі па выгане пад бязлітасным сонцам; адсюль ужо можна было пабачыць дом, але я не глядзеў у той бок. Мы спусціліся ў цень, душны, густы цень нізіны; у зарасніку тут яшчэ валяліся, дагніваючы, жардзіны ад выгану, дзе мы яшчэ хавалі падчас вайны ўзятых у янкі мулаў. Нарэшце, я пачуў цурчанне вады і ўбачыў водбліскі на яе паверхні. Мы спешыліся. Я паваліўся ніцма ў траву, падумаў: *«А цяпер хай сабе і ўдушша зноў...»* Але камяк не падступаў; я заснуў на палове думкі. Праспаў я амаль пяць гадзін, і мне нічога не снілася, але я прачнуўся ад плачу і ніяк не мог спыніцца. Каля мяне на кукішках сядзеў Рынга; сонца ўжо закацілася, але нейкая птушка яшчэ спявала, і было

чутно, як вячэрні цягнік на Поўнач свішча і адрывіста пыхкае, кратаючыся з месца; відаць, рабіў у нас прыпынак. Нарэшце я сцішыўся, Рынга зачарпнуў сваім брылём вады, прынёс яе мне, але я сам пайшоў да рачулкі і апаласнуў твар вадой.

На выгане было яшчэ даволі светла, хоць ужо крычалі казадоі, а калі мы пад'ехалі да дома, на магноліі спяваў перасмешнік, па-начному дрымотна і летуценна; і зноў месяц быў вузкім адбіткам чалавечай пяткі на сырым пяску. У холе свяціўся толькі адзін кандэлябр, і, значыць, усё ўжо скончылася; але яшчэ пахла кветкамі, і вербена ў маёй пятліцы не заглушала іх. Я не развітаўся з бацькам раніцай. Хацеў зайсці перад ад'ездам, але не зайшоў. Так і не глянуў на яго зноў, а партрэты, што засталіся ад яго, усе благія, таму што фатаграфія гэтаксама бяссільна захаваць яго, мёртвага, як дом — зберагчы яго цела ад тлення. Але і так ён тут і тут застанецца назаўсёды; тое, што Друзіла назвала ягонай марай, не пайшло з ім, а завешчана нам, не забудзецца; і варта толькі любому з нас — ці чорнаму, ці беламу — заплюшчыць вочы, як яно набудзе цялеснае аблічча бацькі.

Я ўвайшоў у дом. У гасцінай было пахмурна, толькі на заходнім акне, на каляровых шкельцах цёткі Джэнні ляжаў апошні водбліск захаду сонца. Я хацеў прайсці наверх, але заўважыў, што яна сядзіць каля акна. Яна не паклікала мяне, і я не спытаў у яе пра Друзілу. Толькі стаяў нерухома ў дзвярах.

— Яна паехала,— сказала цётка Джэнні.— Вячэрнім цягнікам. Паехала да Дэнісана[1], у Мантгомеры.

— Так,— сказаў я.— Значыць, яна не...

Але і пра гэта не варта пытацца: Джэд Вайт пэўна ж пабываў тут яшчэ а першай гадзіне дня і ўсё расказаў ім. Дый цётка Джэнні нічога не адказала. Яна магла б схлусіць, але сказала толькі:

— Падыдзі да мяне.

---

[1] Дэнісан Хок — малодшы брат Друзілы.

Я наблізіўся да яе крэсла.

— Устань на калені. Мне цябе не відно.

— Можа, запаліць лямпу?

— Не. Устань на калені.

— Скажы, ты добра прабавіў суботні дзянёк? Раскажы мне ўсё.

Яе рукі ляглі мне на плечы. Я адчуваў, як гэтыя рукі імкнуцца ўверх, нібы самі сабой, супраць яе волі, быццам дзеля мяне яна змагалася з імі, але не змагла ці не вытрымала — рукі ўзняліся, абхапілі мой твар, моцна, і знянацку слёзы пакаціліся з яе вачэй па шчоках, пырснулі, як рогат у Друзілы.

— О, каб вы, Сарторысы, спрахлі! Няхай жа вам тройчы будзе ліха!

Калі я выйшаў з гасцінай, у сталовай запалілі святло — Лувінія накрывала стол для вячэры. Лесвіца была асветленая. Але наверсе было цёмна. Я ўбачыў, што дзверы ў яе пакой адчыненыя (так звычайна адчыненыя дзверы толькі ў нежылых пакоях), і зразумеў, што да гэтага часу не верыў у яе ад'езд. Я прайшоў міма, нават не зазірнуўшы туды. Увайшоў да сябе. Некалькі імгненняў я не мог зразумець, чаму гэта так пахне вербена ў маёй пятліцы, пакуль не падышоў да ложка і не ўбачыў на падушцы галінку (яна іх адшчыквала, не гледзячы, з паўтузіна запар, і ўсе галінкі выходзілі аднаго памеру, амаль аднолькавай формы, нібы машынай адштампаваныя) — галінку, якая напаўняла пакой, прыцемкі, вечар тым адзіным водарам, за якім ёй не быў чуцён пах коней.

*1938*

Пераклаў з англійскай
Вадзім НЕБЫШЫНЕЦ.